*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
**Алег Лойка**


# Слонімскі край



2020, № 6(52). Травень


# Як слонімцы спрабавалі на Захадзе застацца



CM/1

14. Financial resources

For whom

CELLE

Assistance from relatives

Mandate card issued

and for 2 children on 1-9-50

received

F. Laffree

Kissil Pasia

Працяг на ст. 3

## Манеты да юбілею




У красавіку 2020 года Нацыянальны банк Беларусі выпусціў у абарачэнне памятныя манеты “550 гадоў здабыцця цудатворнай Жыровіцкай іконы Божай Маці”. Адна з іх — сярэбраная, мае намінал 100 рублёў. Яе зрабілі 599 штук.

*Працяг на ст. 2*

ХРОНІКА

# Юбілейныя святы ў Жыровічах могуць прайсці ў канцы лета




Сітуацыя з распаўсюдам каранавіруса не дазволіла ў траўні адзначыць юбілейныя святы — 500-годдзе заснавання Жыровіцкага манастыра, 550-годдзе з'яўлення славутай Жыровіцкай іконы Маці Божай і 500-годдзе яе паўторнага з'яўлення. Толькі 11 траўня на афіцыйным партале Беларускай Праваслаўнай Царквы з'явілася паведамленне пра іх перанос *"на больш позні тэрмін… у сувязі з непрадбачанай, складанай эпідэміялагічнай сітуацыяй"* (дату абяцаюць назваць *"пасля заканчэння эпідэміі"*). А яна такая, што наўрад ці ў бліжэйшыя месяцы стануць магчымыя масавыя мерапрыемствы.

Тэлеканал СТБ дапускае, што святы ў Жыровічах пройдуць у канцы жніўня 2020-га. Гэта даволі аптымістычны прагноз. Праўда, тут не ўлічаны фактар прэзідэнцкай выбарчай кампаніі ў Беларусі, якая заканчваецца ў пачатку жніўня. Як вядома, першапачаткова на святах у Жыровічах чакаліся высокія госці. Можа ўсё ж хтосьці з іх прыедзе ў абіцель. У такім выпадку свята можа прайсці раней.

# Міжнародныя краязнаўчыя чытанні

15 траўня ў анлайн-фармаце пройдуць XVI Міжнародныя краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя 500-м угодкам з часу заснавання Жыровіцкага манастыра і бібліятэкі. Яны пачнуцца а 11-й гадзіне. У чытаннях паўдзельнічаюць вядомыя навукоўцы з Беларусі, Украіны, Польшчы, Літвы, Расіі, Францыі. Запланаваная жывая трансляцыя ў інтэрнэце.




*"Хай наша міжнародная канферэнцыя будзе такім своеасаблівым паклонам духоўнаму цэнтру Беларусі",* — піша прэс-служба Міністэрства культуры.

# Манеты да юбілею

*Працяг, пачатак на ст.1.*

Другая — медна-нікелевая, мае намінал 1 рубель. Яе наклад — 1999 штук. Вырабілі манеты ў горадзе Усць-Каменагорск у Казахстане.

На манетах бачым выявы Жыровіцкага манастыра і Жыровіцкай іконы Божай Маці.

*Фота: nbrb.by*






# Як слонімцы спрабавалі на Захадзе застацца

*Працяг, пачатак на ст.1.*

Цэнтр дакументацыі аб пераследаваннях нацыянал-сацыялістычным рэжымам Arolsen Archives (ён знаходзіцца ў нямецкім горадзе Бад-Арользене ў зямлі Гесэн) выклаў у вольны доступ у інтэрнэце мільёны дакументаў са сваіх збораў. Яны датычаць не толькі ўласна ахвяр, якія вывозіліся на прымусовыя працы ці траплялі ў канцлагеры, але і так званых "перамешчаных асоб", якія апынуліся пасля Другой сусветнай вайны ў зонах акупацыі Германіі заходнімі саюзнікамі. Падчас прагляду разнастайных картатэк у іх знайшлося нямала слонімцаў і людзей, якія маюць дачыненне да нашага горада.

Што адразу кідаецца ў вочы? Гэта тое, як некаторыя нашы землякі, якія не пацярпелі ад нацыстаў, падавалі заходнім службам сябе, як ахвяр. Пры гэтым перакручвалі ці нават выдумлялі факты сваіх біяграфій, мянялі месца нараджэння, нацыянальнасць, веравызнанне. Яны любым коштам хацелі застацца на Захадзе і не жадалі вяртацца ў савецкую Беларусь.

Пачнем з паэта Сяргея Хмары (Сіняка, 1905 — 1992). Ён — ураджэнец Казлоўшчыны ў цяперашнім Дзятлаўскім раёне. Хмара быў рэпрэсаваны і польскімі ўладамі, і савецкімі. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Слоніме, быў загадчыкам бібліятэкі, займаўся прапагандай — выступаў на мясцовым радыё, удзельнічаў у выданні мясцовай газеты. З Беларусі Сяргей Хмара выехаў летам 1944 года, заканчэнне вайны



*Сям'я Дабрыянаў*



*Барыс Суравы*




*Уладзіслаў Брамерскі*



*Баляслаў Барысевіч*




*Люцыя Навацка (Пятрашка)*

# Як слонімцы спрабавалі на Захадзе застацца

Працяг, пачатак на ст. 3.

сустрэў у Германіі, акупаванай заходнімі саюзнікамі. Ён трапіў у лік “перамешчаных асоб”, спадзяваўся выехаць за акіян, у Канаду. За час падрыхтоўкі да выезду Хмара запоўніў некалькі дакументаў, якія захаваліся ў архіве.

Па-першае, ён змяніў імя, стаў Мар’янам (часам пісаў двайное імя — Мар’ян-Сяргей), “падкарэктаваў” прозвішча з Сіняк на Зіняк. У адной з анкет Мар’ян-Сяргей Зіняк падаў праўдзівую дату нараджэння — 25 траўня 1905 года, але месца прыдумаў новае — Аўгустоўскі павет на тэрыторыі народнай Польшчы (на іншых картках пазначаў Адэсу). Відаць, палічыў, што гэта дае яму больш шанцаў дасягнуць мэты. Як і новая нацыянальнасць — паляк, новае веравызнанне — метадыст! У яго былі знаёмыя беларускія метадысты, таму Хмара меў агульныя ўяўленні пра метадызм. Вырашыў, што ў верніка з такім веравызнаннем на Захадзе таксама будзе нейкая перавага перад тымі ж праваслаўнымі. Назваў сябе “хрысціянскім дэмакратам”, хаця быў “левым”.

Наступная выдумка, што на пачатак Другой сусветнай вайны паэт быў у Варшаве. Насамрэч, ён знаходзіўся ў савецкай турме, адкуль здолеў вырвацца падчас транспартавання вязняў. Увогуле пра Слонім Сяргей Хмара нічога не пісаў. Нібыта, падчас нямецкай акупацыі знаходзіўся ў Пінску і Гродне. Таксама слонімец прыдумаў, што ў лістападзе 1943-га быў вывезены на прымусовыя працы ў Германію.

У Хмары атрымалася. Разам з сям’ёй ён выехаў у Канаду.



Абрам Арлінскі

**KWESTIONARIUSZ DLA D.P.**

No. Obozu DP 1206 Wiek 41 Płeć MĘSKA No. Karty DP1 G 21 275764

NALEZY DAĆ ODPOWIEDŹ NA WSZYSTKIE PYTANIA DRUKOWANYMI LITERAMI

Tam gdzie pozostawiono miejsce na odpowiedź „Tak" lub „Nie", należy we właściwym miejscu dać odpowiedź, stawiając „X".

1. Nazwisko (prawidłowa pisownia): ZINIAK MARIAN-SERGIUSZ
(Nazwisko) (Imię) (Nazwisko panieńskie)

2. a) Kraj i miejsce urodzenia POLSKA OLESIÓW POW. AUGUSTÓW.
b) Data urodzenia 25 MAJ 1905
(Dzień) (Miesiąc) (Rok)

3. a) Narodowość POLAK b) Wyznanie METODYSTA
c) Posiadane Obywatelstwo w dniu 31-go sierpnia 1939 roku. POLSKIE

Adres w tym dniu WARSZAWA MOKOTOWSKA 12

Dokładna pisownia posiadanego nazwiska w niemieckim języku ZINIAK

Дакумент Мар’яна-Сяргея Зіняка (Сяргея Хмары)

У Вялікабрытанію ўдалося выехаць з Германіі слонімскаму педагогу, арганізатару СБМ Барысу Сураваму. Інфармацыі на яго картках вельмі мала. У Аўстралію выехаў Аляксей Васіленя, які падчас нямецкай акупацыі працаваў кіраўніком Самапомачы Слонімскай акругі. Ёсць некалькі картак педагога Аляксандра Асіпчыка з Пляшкоў (цяпер — Мірная), акруговага школьнага інспектара Юрыя Няпомніка, святара і слуцкага паўстанца Тодара Данілюка з Сурынкі (на адным з іх — фота і адбіткі пальцаў), старшыні раённай управы Сямёна Цітовіча. Таксама ў архіве знайшліся дакументы Язэпа Дакіневіча, намесніка прэзідэнта БЦР у Слонімскай акрузе, арганізатара БКА. На адной з картак напісана: *“Маёмасьці і сям’і дома няма. Пад савецкай уладай ніколі ня жыў і таму вяртацца не хачу”.*

Дагэтуль былі дзве версіі наконт далейшага лёсу Дакіневіча: выехаў з Германіі ў Аргенціну ці ў Польшчу.

A.E.F. D.P. REGISTRATION RECORD

(1) Registration No. 427118 — Original ☑ Duplicate ☐

OSIPCZYK ALEKSANDER — M. ☑ Single

(2) Family Name — Other Given Names — (3) Sex — (4) Marital Status — (5) Claimed Nationality

1.4.1909. Pleski Nowogrodek Polska

(6) Birthdate — Birthplace — Province — Country — (7) Religion (Optional) — (8) Number of Accompanying Family Members

(9) Number of Dependents: 2 — Osipczyk Jan — (10) Full Name of Father — Sawicka Paulina — (11) Full Maiden Name of Mother

(12) Desired Destination: Ameryka — (13) Last Permanent Residence or Residence January 1, 1938: Stanim Nowogród Polska

(14) Usual Trade, Occupation or Profession — (15) Performed in What Kind of Establishment — (16) Other Trades or Occupations: inteligator

(17) Languages Spoken in Order of Fluency: a. Polish b. Russian c.

(18) Do You Claim to be a Prisoner of War — (19) Amount and Kind of Currency in your Possession: 1000.R.M.

(20) Signature of Registrant — (21) Signature of Registrar — Date: 22.8.45. — Assembly Center No. 1219

Дакумент Аляксандра Асіпчыка

На адной з картак пазначана, што ў студзені 1948 года ён паехаў у Бразілію. Дарэчы, Язэп Дакіневіч, як і Сяргей Хмара, таксама змяняў факты свае біяграфіі: у адным выпадку пісаў, што нарадзіўся ў Закапанэ ў Польшчы, у іншым — у Вільні. Сябе ён назваў мастаком і, як сведчыў адзін беларускі эмігрант, ім сапраўды стаў.

“СК” ужо пісаў пра слонімца Мацея Байрашэўскага, які ў пачатку 1945-га хацеў паступіць на беларускія афіцэрскія курсы.* Яго ліст захоўваецца ў зборах НАРБ у Мінску, а ў нямецкім архіве знайшлася падборка дакументаў нашага земляка. У 1949-м Байрашэўскі выехаў у ЗША.

У архіве згадваюцца дзясяткі іншых нашых землякоў. Згадаем некаторых з іх. Валянціна Якубовіч (Васіленя) з Азярніцы, Вітальд Мушынскі з Альбярціна, слонімцы Уладзімір Дабрыян з сям’ёй, Адам Касабуцкі, Дуся Кісіль (Кісель?, дзяв. Гарманюк) з маці і двума дзецьмі, Канстанцін Казакевіч з жонкай Марыяй і дачкой Аленай, Лукаш Ліхацэвіч з сям’ёй, Альбін Чэрняк з

COMMANDEMENT EN CHEF FRANÇAIS EN ALLEMAGNE

Carte d’identité de Personnes Déplacées

Nom BAJRASZEWSKI

Prénoms MACIEJ

Nationalité POLONAISE

Adresse REUTE CAMP

Cercle de RAVENSBURG

Né le 22.9. 1900.

A SLONIM

Profession EMPLOYE

Situation de famille MARIE

Taille 1.61 — Nez normal

Visage oval — Yeux gris

Teint pal — Cheveux mélangé

Empreintes digitales

Pouce gauche — Pouce droit

N° 57838

Date d’émission: 26.8.46.

Signature du chef de section des Personnes Déplacées

Signature du titulaire

Imprimerie nationale

Мацей Байрашэўскі

# Як слонімцы спрабавалі на Захадзе застацца

*Працяг, пачатак на ст. 1, 3-5*

сям'ёй, Уладзімір Федарэнка з сям'ёй, Шмуэль Іцковіч з сям'ёй, Маргарыта Сагайдакоўская (Лукіна), Адам Маліноўскі, Іван Марчанка, Баляслаў Барысевіч, Уладзіслаў (Уладзімір) Брамерскі, Міхаіл Палуносік, Люцыя Навацка (Пятрашка), Валенты Данілеўскі, Лявон Дык, сям'я Яновіч-Чаінскіх, сям'я Келбасінскіх…

У некаторых выпадках на картках утрымліваецца інфармацыя пра неверагодныя пакуты, якія давялося пераржыць нашым землякам. У Германіі пасля вайны апынуўся Абрам Арлінскі са Слоніма з жонкай-лекарам. Ён нарадзіўся ў нашым горадзе ў 1903-м. У канцы 1930-х жыў у Чэнстахове, адкуль паходзіла жонка Чэслава. У родныя месцы яны вярнуўся ў 1939 годзе. Падчас нямецкай акупацыі Арлінскія былі ў слонімскім гета, у 1942-м падчас яго ліквідацыі выжылі. Абрам Арлінскі пісаў, што два гады з жонкай хаваўся ў сяброў у раёне, а ў 1944-м, пасля вызвалення горада, выехалі ў Польшчу ў Лодзь, а ў верасні 1945-га — у Германію. Хацелі перабрацца ў Палестыну. Аднак на сайце partizany.by ёсць баявая характарыстыка савецкага партызана Абрама Арлінскага. Ён быў у партызанах са жніўня 1942-га.** Яго жонка падчас знаходжання ў гета перапраўляла ў лес для партызанаў медыкаменты.*** Пра гэты факт сваіх біяграфій Арлінскія змаўчалі.

●Сяргей Ёрш


*Адам Касабуцкі*

**Ёрш С. Пра слонімца Мацея Байрашэўскага, які хацеў запісацца на беларускія афіцэрскія курсы // Слонімскі край, 2018, № 4(26). Красавік. С. 14.*

***https://partizany.by/partisans/98053/*

**** http://www.ejwiki.org/wiki/%D0%A1%D0%BB%D0%BE%D0%BD%D0%B8%D0%BC*

Cat."B" 157.199.

COMMANDEMENT EN CHEF FRANÇAIS EN ALLEMAGNE

**Carte d'identité de Personnes Déplacées**

Nom Daniluk
Prénoms Theodor
Nationalité Apatride
Adresse Camp.PDR.Münsingen
Cercle de Münsingen
Né le 12.8.1887.
A SLONIM
Profession prêtre
Situation de famille marié

Taille 1.72 Nez moyen
Visage oval Yeux bleus
Teint coloré Cheveux gris

Empreintes digitales

| Pouce gauche | Pouce droit |
|---|---|
| | |

N° 35.899
Date d'émission 4.3.1950.

*Дакумент Тодара Данілюка*

**A.E.F. D.P. REGISTRATION RECORD**

(1) Registration No. 6 0 V 8 8 5 7 4 0

Original ☑ Duplicate ☐

For coding purposes: A. B. C. D. E. F. G. H. I. J.

DAKINIEWICZ JOSEPH — M. ☑ Single ☑ Married ☐ — F. ☐ Widowed ☐ Divorced ☐ — польскае

(2) Family Name — Other Given Names — (3) Sex — (4) Marital Status — (5) Claimed Nationality

April 11, 1906, Законанг Кракаў Польшча — рим.-кат.

(6) Birthdate — Birthplace — Province — Country — (7) Religion (Optional) — (8) Number of Accompanying Family Members: —

(9) Number of Dependents: — Дакіневіч Болеслаў — Гоффмейстер Эмилия

(10) Full Name of Father — (11) Full Maiden Name of Mother

(12) Desired Destination — USA, Vocktenmas — (13) Last Permanent Residence or Residence January 1, 1938. Брэст н/Б. Брэст Польшча

City or Village — Province — Country — City or Village — Province — Country

artist-painter — гімназія — lower employee — 9.1.48

(14) Usual Trade, Occupation or Profession — (15) Performed in What Kind of Establishment — (16) Other Trades or Occupations

White-Ruthenian, Russian a. Polish b. c. — (18) Do You Claim to be a Prisoner of War — Yes ☐ No ☑ — 500 RM — FILE No. 252311

(17) Languages Spoken in Order of Fluency — (19) Amount and Kind of Currency in your Possession

(20) Signature of Registrant: — (21) Signature of Registrar: — Date: August 22, 1945 — Assembly Center No. UN-Ro-C

(22) Destination or Reception Center: — Res. Stand 9.1.1948

Name or Number — City or Village — Province — Country

(23) Code for Issue: 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28

(24) Remarks: I have no family and possession at home. I have never Sovietcitizenship and don't desire to return home.

DP-2

*Дакумент Язэпа Дакіневіча*




*Сям'я Яновіч-Чаінскіх*




*Вітальд Мушынскі*




*Валенты Данілеўскі*



*Сланімчанка Генавэфа Ліхацэвіч (Кедзерская)з мужам Юзафам*

# Як слонімцы спрабавалі на Захадзе застацца

*Заканчэнне,*
*пачатак на ст. 1, 3-7*

B e s c h e i n i g u n g .

Am 15. 9. 1948 hat Pavel KIELBASINSKI, wohnhaft in Freiburg, Salzstr. 30 wohnhaft, angezeigt, dass seine Mutter Anna KIELBASINSKI*, hier, Salzstr. 30 wohnhaft, ihren Personalausweis in der Maienstrasse 1 verloran habe, d.h. sie habe diese dort nicht mehr zurückerhalten. –

Freiburg i.Br., den 20. Oktober 1948.

* geb. am 24. 12. 1887

I.A. Müller

STAATLICHE KRIMINALPOLIZEI ABTEILUNG FREIBURG I.B.

*Пасведчанне , якое Павел Келбасінскі і яго маці Ганна ў 1948 годзе атрымалі ў паліцыі Фрайбурга*

(1) REGISTRATION No. 253820

A.E.F. D.P. REGISTRATION RECORD

SCREENED UNRRA

Original ☐ Duplicate ☒

G-4-5-4-3-6-6-1

(2) Family Name: Vasilenia
Other Given Names: Valentyna
(3) Sex: F.
(4) Marital Status: Married
(5) Claimed Nationality: Polish-white Ruth.
(6) Birthdate: 25.2.1921 Birthplace: Aziarnica Province: Slonim Country: Poland
(7) Religion (Optional): orthodox
(8) Number of Accompanying Family Members:
(9) Number of Dependents:
(10) Full Name of Father: Jakubovič Lukaš
(11) Full Maiden Name of Mother: Zych Hiermania
(12) Desired Destination: City or Village / Province / Country
(13) Last Permanent Residence or Residence January 1, 1938: Slonim Slonim Poland
(14) Usual Trade, Occupation or Profession:
(15) Performed in What Kind of Establishment: Slonim
(16) Other Trades or Occupations:
(17) Languages Spoken in Order of Fluency: white russian, polish, russian
(18) Do You Claim to be a Prisoner of War: No
(19) Amount and Kind of Currency in your Possession: –
(20) Signature of Registrant:
(21) Signature of Registrar:
Date: 29.10.45
Assembly Center No.
(22) Destination or Reception Center:
(23) Code for Issue: 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28
(24) REMARKS

source, 8 dPACs Flensburg

*Дакумент Валянціны Якубовіч (Васілені) з Азярніцы*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года


Руіны палаца ў Старых Жыровічах

Сёння многія вёскі знікаюць, а разам з імі знікаюць іх назвы. А гэта значыць, што знікае наша гісторыя, наша мова, нашыя карані, спусташаецца наша памяць пра мінулае нашых продкаў. Такі лёс можа сёння напаткаць кожную невялікую вёсачку, але толькі не Старыя Жыровічы. Яшчэ некалькі год таму Старыя Жыровічы былі бязлюднай мясцовасцю, непраходнымі зараснікамі, бо рэшткі некалі цудоўнай сядзібы параслі пустазеллем, усё выглядала занядбаным, але 10 год таму гэтыя землі перадалі Жыровіцкаму Свята-Успенскаму мужчынскаму манастыру, які добраўпарадкаваў былы маёнтак, размясціўшы там падвор'е "Эдэмскі сад". І сёння туды прыязджаюць людзі, каб пабыць у гармоніі з прыродай і падумаць пра вечнае, зразумець сябе, сваё прызначэнне, знайсці сваю дарогу да Бога. На тэрыторыі незвычайнага заасада сапраўды можна знаходзіцца гадзінамі, не заўважаючы часу. Святая жыровіцкая зямля ўсяляе у душы беларусаў веру, надзею і любоў.

Вывучэнне гісторыі маёнтка Старыя Жыровічы пачалося для мяне неспадзявана з гісторыі вёскі Літва. Калі я ў 2003 годзе




ўпершыню трапіла ў вёску, была вельмі ўражана маляўнічай прыродай і векавымі дрэвамі, якія надавалі хараство і чараўніцтва ўсяму наваколлю. Я запыталася ў мясцовых жыхароў, што яны памятаюць з мінулага сваёй вёскі і пачула: *"А хіба ж сёння хто ўспомніць што?"* Жыве сабе чалавек надзёнными клопатамі і сваімі турботамі, хвалюецца пра дзень заўтрашні і не ведае, што было тут калісьці даўным-даўно. Мы ведаем толькі, што гаспадаром Літвы быў пан Мікульскі, які жыў са сваёй жонкай ў двухпавярховым палацы. Пані была вельмі прыгожая і па загаду пана дарогу да палаца абсадзілі прыгожымі алеямі, нават і сёння мясцовыя жыхары так і кажуць *"алея пані Мікульскай"*.

Зацікавіла мяне і старажытная назва вёскі, і тое, што 120

Працяг на ст. 10

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак на ст. 9*

год таму ў Літве выраблялі галандскія сыры. Пазней я даведалася, што гаспадарка Літвы была адной з самых эфектыўных на Гродзеншчыне, і сам Пётр Сталыпін да пачатку сваёй рэформы для абмеркавання перадавых метадаў гаспадарвання сустракаўся з памешчыкамі, сярод якіх быў і ўладальнік Літвы Аляксандр Фларэнцінавіч Мікульскі. Цікавасць да вывучэння гісторыі вёскі Літва павялічылася, калі жыхары суседніх Вербалатаў паказалі мне чарку з гравіроўкай, памятнымі ініцыяламі і кляймом майстра (хутчэй за ўсё яна трапіла да сялян падчас разрабавання маёнтка ў 1939 годзе). Малюнак мне добра запомніўся і ўзгадваецца сёння: прыгожая дзяўчына з доўгімі валасамі на фоне краявідаў лясоў пушчы. Хто яна, тая прыгажуня? Магчыма, гаспадыня Літвы ці Жыровіч, з партрэту якой майстар і зрабіў свой шэдэўр? У першай палове XIX стагоддзя ў маёнтку Старыя Жыровічы працаваў завод меднага майстэрства, таму магчыма, што гэты шэдэўр быў зроблены мясцовым майстрам. Ініцыялы, што былі выгравіраваны побач з малюнкам у выглядзе двух вялікіх літар *"А. М."*, даюць падставу меркаваць, чый партрэт быў выкананы: магчыма, графіні Ганны Моль ці яе нявестак Александрыны Марэнгейм і Ганны Шэміёт (Шэмет). Нарэшце, апошнюю гаспадыню Літвы ўнучку Ганны Моль таксама звалі Аляксандра Мікульская.


*Алея, якая вяла да палаца ў Літве*

Напэўна і таму, што вёска Літва з шматвекавой гісторыяй сёння аджывае свой век і спыніць гэта немагчыма, застаецца толькі захаваць яе гісторыю.

Упершыню яна згадваецца ў 1493 годзе. Вёска мае сваё далёкае мінулае, якое і дало ёй назву. Слова "Літва" заходнебалцкага паходжання і ўпершыню з'яўляецца ў 1009 годзе. Сучасныя лінгвісты слова "Літва" звязваюць з балцкімі або славянскімі каранямі "lieta, lieti" — ліць (пра дождж), цячы (пра ваду). Існуе і міфалагічна-легендарнае тлумачэнне паходжання: так яшчэ нібыта называлі прынёманскія землі легендарныя рымляне-перасяленцы. Калі вы запытаецеся ў мясцовых жыхароў, адкуль паходзіць назва іх вёскі, то пачуеце, што яе заснаваў літовец, чалавек з Літвы. Магчыма, што старажылы маюць рацыю, бо "Тапанімічны слоўнік Беларусі" сцвярджае, што дадзеная назва — этнонім, які сведчыць пра пасяленне, заснаванае ў мінулым балцкім насельніцтвам. Гісторык Мікола Ермаловіч першым звярнуў увагу на групу населеных пунктаў з назвамі Літва. Па яго словах, племя літва пакінула свае "аўтографы" ў выглядзе назваў вёсак Літва, якія мы знаходзім і зараз у Слонімскім, Ляхавіцкім, Уздзенскім, Стаўбцоўскім і Маладзечанскім раёнах.

Разам з племенем літва на Слонімшчыну прыйшлі і прусы. Прусы — сярэдневечны заходнебалцкі народ, які насяляў паўднёва-усходняе ўзбярэжжа Балтыйскага мора. Землі прусаў у XIII стагоддзі заваявалі рыцары Тэўтонскага ордэна. Прусы мужна змагаліся, але сілы былі няроўныя. Некаторыя з іх не захацелі знаходзіцца пад уладай крыжаносцаў і папрасілі дапамогі ў літоўскага князя Трайдэна. Ён пасяліў частку іх каля Гродна, а частку — у ваколіцах Слоніма. Аб прыходзе

прусаў у 1276 годзе на слонімскія землі запісана ў Іпацьеўскім летапісе: *“Придота пруси ко Троиденеви из своей земли неволею перед немци. Он же прия е к себе и посади часть их в Городне, а часть их во Слоним”.* Прусы пасяліліся ля Дзятлава, заснаваўшы вёскі Засецце, Погіры, Норцавічы. Магчыма, што вёскі Літва і Прусоўшчына на Слонімшчыне таксама маюць балцкае паходжанне.




Я вельмі ўдзячна нашчадкам трох родаў Мікульскіх, Ордаў і Пржэцлаўскіх за перапіску са мной, за звесткі і фотаздымкі, якія яны мне дасылаюць і даюць магчымасць аднавіць забытыя імёны і падзеі ў гісторыі нашай Слонімшчыны. З 2010 года я падтрымліваю перапіску з праўнукам Фларэнціна Мікульскага прафесарам Акадэміі навук Польшчы Янам Х’юбертам Стэцкім з Варшавы. Далейшы пошук звестак пра род Мікульскіх прывёў мяне ў Францыю да Х’юберта і Марыі Клер Дэнармандзі, французскіх нашчадкаў беларускага мастака і кампазітара Напалеона Орды. Атрымалася, што род Мікульскіх і Ордаў звязаны радством. А ў мінулым годзе мне сталі пісаць нашчадкі роду Пржэцлаўскіх, адна з якіх, Галіна Алейнікава, сёння жыве ў Маскве.

●Святлана Брайчук

*Працяг у наступным нумары*

ЗАБЫТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# Лука Курыловіч і “Саюз вызвалення Беларусі”

У лютым 1900 года ў вёсцы Міжэвічы на Слонімшчыне ў сялянскай сям’і нарадзіўся Лука Піліпавіч Курыловіч. Дакладна невядома, калі ён пакінуў родныя мясціны. Магчыма, быў у бежанстве ў Расіі. Вучыўся, атрымаў медычную адукацыю. Пасля заканчэння польска-савецкай вайны і Рыжскага міру 1921-га Слонімскі павет апынуўся ў складзе Польшчы. Курыловіч застаўся ў савецкай Беларусі. У Барысаве ў адной з бальніц працаваў лекарам. Яго арыштавалі 24 ліпеня 1930 года па справе прыдуманага савецкімі карнымі органамі “Саюза вызвалення Беларусі”. Сярод 90 асуджаных у красавіку 1931-га прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі былі два слонімцы — навуковец-мовазнаўца Янка Бялькевіч[1] і Лука Курыловіч.

Курыловіч атрымаў за “антысавецкую агітацыю” пяць гадоў высылкі, якую адбываў у Яшкар-Але.[2] Слонімец перажыў гэтыя выпрабаванні. Але ў 1937 годзе яго зноў арыштавалі *энкавэдысты.* На гэты раз прызналі вінаватым у *“аказанні дапамогі міжнароднай буржуазіі”.* 28 кастрычніка 1937-га па справе Лукі Курыловіча вынеслі смяротны прысуд, а 1 лістапада яго расстралялі.

●Генадзь Гурскі

*[1] У “СК” была публікацыя пра яго: Чыгрын С. Невядомы верш Янкі Бялькевіча // Слонімскі край, 2019, № 2(36). Люты. С. 15.*

*[2] Спіс арыштаваных па справе “Саюза вызвалення Беларусі” // ARCHE, 2019, № 4. С. 68.*

*[3] Картатэка Сталіна // https://www.svaboda.org/a/24888444.html*



# Карціна Рэмбранта ці 1,5 кг золата за апельсінавыя саджанцы для слонімскай рэзідэнцыі



У красавіцкім нумары часопіса "Наша гісторыя" Надзея Вусава распавяла пра знакамітую карціну Рэмбранта "Лісоўчык" ("Польскі вершнік").* Яна мае ўскоснае дачыненне да Слоніма. Справа ў тым, што карціну ў Галандыі купіў Міхал Казімір Агінскі, вялікі гетман літоўскі і слонімскі стараста. Ён падарыў яе каралю Рэчы Паспалітай і вялікаму князю літоўскаму Станіславу Аўгусту Панятоўскаму. Як піша Вусава, Агінскі заплаціў за карціну Рэмбранта *"фактычна 1,5 кг чыстага золата".* Але гэта насамрэч быў "бартэр", паколькі Міхал Казімір атрымаў ад караля за дасланага з Галандыі "Лісоўчыка" *"некалькі апельсінавых дрэўцаў для сваёй рэзідэнцыі ў Слоніме".***

Больш падрабязна пра гэтую гісторыю раней пісаў даследчык Анджэй Цеханавецкі.*** І калі Надзея Вусава піша, што падарунак адбыўся ў 1793 годзе, дык Цеханавецкі называе 1791 год. Ён спасылаецца на архіўныя дакументы, з якімі асабіста працаваў.

Вось што Агінскі пісаў каралю: *"Сэр, пасылаю Вашай Каралеўскай Міласці казака, якога Рэмбрант пасадзіў на каня, з'еў той конь за той час, пакуль быў у мяне, 420 нямецкіх гульдэнаў. Справядлівая ласка Вашай Каралеўскай Міласці дае мне надзею, што апельсінавыя дрэвы заквітнеюць у той жа*



*прапорцыі, прыпадаю да ног. Вашай Каралеўскай Міласці, Майму самаму дарагому пану, самы аддaны яго слуга, Міхал Агінскі, вялікі гетман літоўскі".*

На лісце няма даты адпраўлення, але ёсць адзнака, зробленая каралеўскай рукой: *"сярэдзіна жніўня 1791 г."*. Гэта дата атрымання. Анджэй Цеханавецкі ўпэўнены, што Агінскі атрымаў за карціну *"апельсінавыя саджанцы з каралеўскай аранжэрэі, бо значная колькасць іх фігуруе ў інвентарных спісах, зробленых для Слоніма і для Геленава пад Варшавай, апошняй рэзідэнцыі гетмана".*

Такім чынам саджанцы апынуліся не толькі ў Слоніме, але і ў іншай рэзідэнцыі.

Цеханавецкі падкрэслівае, што набыццё Міхалам Казімірам Агінскім "Лісоўчыка" Рэмбранта "адназначна сведчыць пра [яго] ўзровень мастацкай адукацыі і кампетэнтнасць".

●Генадзь Гурскі

**Вусава Н. Вершнік. Каго намаляваў Рэмбрант? // Наша гісторыя, 2020, № 4. Красавік. С. 56-59.*

***Наша гісторыя, 2020, № 4. С. 56.*

****Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме. — Мінск, 2006. С. 56, 214.*

# У Слоніме служыў асілак



У сярэдзіне 1920-х гадоў у Слоніме ў 80-м пяхотным палку польскага войска служыў узводны Барыс Францэвіч. У адным з нумароў часопіса "Żołnierz Polski" ("Польскі салдат") за 1926 год змешчана асведчанне слонімскіх афіцэраў (маёра, капітанаў, паручнікаў) пра яго незвычайныя здольнасці.[1] Што ж такога зрабіў Францэвіч? Ён дэманстраваў розныя сілавыя нумары. Напрыклад, згінаў жалезныя бруські, скручваў іх у выглядзе бранзалета. Мог 40-60 секунд трымаць на сабе аркестр з... 15-20 чалавек. А яшчэ яго пераязджаў легкавы аўтамабіль, у якім сядзелі шэсць чалавек… Свае сілавыя нумары Францэвіч у 1924-1925 гадах паказваў у Народным доме ў Слоніме (цяпер на месцы гэтага будынка тэатр), а таксама ў Навагрудку. Пружанах і Брэсце. Яго заўважылі, бо ў 1926 годзе асілак знаходзіўся на дзесяцімесячным курсе ў галоўнай школе гімнастыкі ў Познані.[2]

У пачатку 1926 года рэдакцыя часопіса "Żołnierz Polski" аб'явіла конкурс сярод вайскоўцаў-асілкаў (афіцэраў, падафіцэраў і салдат), якім прапаноўвалася падымаць цяжар, ламаць ці згінаць жалеза і г. д. "Вялікі конкурс сілы" праводзіўся сумесна з аддзелам фізічнага выхавання Генштабу польскага войска. Згаданае асведчанне слонімскія афіцэры склалі і даслалі ў рэдакцыю ў красавіку

*Працяг на ст. 14*

**Niniejsze zaświadczenie wydano plut. zaw. Frącewiczowi Borysowi, który ma zamiar stanąć do zawodów pokazów siły „Żołnierza Polskiego".**

**(—) *Szramke mjr*, (—) *Hofbauer kpt.*,**
**(—) *Skarzyński kpt.*, (—) *Bamber por.***

**Słonim, dnia 7 kwietnia 1926 r.**

**Własnoręczne podpisy: mjra Szramkiego Konrada, d-cy I/80 p. p., kpt. Hofbauera Alfreda, kpt. Skarzyńskiego Bronisława i por. Bambera Franciszka wszystkich z 80 p. p. stwierdzam.**

**(—) z/r Adjutant pułku**
***Jędrzejczyk*, porucznik.**

**Słonim, dn. 8 kwietnia 1926 r.**

# У Слоніме служыў асілак

Працяг, пачатак на ст. 13

(дарэчы, пазней за іншых). На жаль, яны не далучылі здымкаў з нумароў Барыса Францэвіча. Увогуле невядома, ці рабіліся яны. Іншыя ўдзельнікі конкурсу мелі цэлыя фотарэпартажы, яны друкаваліся, і не толькі ў вайсковых выданнях. Па адным з здымкаў бачым, як аўтамабіль пераязджаў праз іншага асілка. Прыблізна такі ж нумар быў і ў Францэвіча.

Вынікі былі падведзены ў лістападзе 1926 года. Рэдакцыя хацела сабраць разам усіх асілкаў, каб яны ў спаборніцтвах паміж сабой вызначылі наймацнейшага. Аднак зрабіць гэта не ўдалося. Таму давялося падводзіць вынікі паводле пісьмовых сведчанняў пра іх подзвігі. Усе шэсць асілкаў з розных рэгіёнаў тагачаснай Польшчы атрымалі памятныя медалі. На медалі, які атрымаў слонімскі вайсковец, быў надпіс: *“Аднаму з наймацнейшых у войску Барысу Францэвічу рэдакцыя Польскага Салдата”.* [3]

●Генадзь Гурскі





*[1] Wielki konkurs siły // Żołnierz Polski, 1926, № 17, 25 красавіка. С. 322.*

*[2] Żołnierz Polski, 1926, № 17, 25 красавіка. С. 322; Chmiel A. Siłacze w Wojsku Polskim II Rzeczypospolitej // Szkice Humanistyczne (Olsztyn), 2016. T. XVI. № 1-2 (39). S. 26-27.*

*[3] Wielki konkurs siły // Żołnierz Polski, 1926, № 46, 14 лістапада. С. 866.*






# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29), 2018 г.,№ 5(39), № 7(41), 2019 г.; № 5(51), 2020 г.*



*Малюнак з польскай газеты Przegląd Sportowy, 1931 г.*

### 1931

У 1931 годзе ў “клясе А” акруговага футбольнага першынства Віленскага ваяводства ўдзельнічалі віленскія і баранавіцкія каманды. Апошнія па ўзроўні саступалі калектывам са сталіцы Заходняй Беларусі. “Кляса В” была падзелена на тры групы — Віленскую, Лідскую і Баранавіцкую. Гэта змяншала выдаткікаманднапаездкіўіншыя гарады. У Баранавіцкай групе былі тры мясцовыя каманды (WKS 78PP II Baranowicze, Makabi II Baranowicze, Strzelec Baranowicze), дзве каманды з цэнтра Навагрудскага ваяводства (Makabi Nowogródek, PKS Nowogródek) і дзве слонімскія (WKS Słonim, ŻKS Słonim[1], але насамрэч тады існавала Makabi Słonim). У даступнай нам літаратуры няма інфармацыі пра гэты турнір. Нам удалося сабраць пэўныя звесткі пра футбольны сезон у мясцовым і спартыўным перыядычным друку.

Дакладна невядома, ці сапраўды слонімскія каманды ўдзельнічалі ў Баранавіцкай групе. Зусім няма інфармацыі пра матчы вясны 1931-га. Першы паядынак, пра які нам вядома, адбыўся ў сярэдзіне чэрвеня. Найхутчэй ён быў таварыскім. У ім сустрэліся вайскоўцы з 79-га пяхотнага палка (WKS 79 pp Słonim) і “Макабі” (Makabi Słonim). Матч быў роўных па сіле сапернікаў, але армейцы вырвалі перамогу з мінімальным лікам — 1:0.

У канцы чэрвеня “Макабі” двойчы абыграла каманду “Спарта” (Sparta) — 4:0 і 3:2. У першай камандзе былі адзначаны Равіцкі II (Rawicki II), Мінц (Minc) і Баскер (Basker). Інфармацыі пра другую каманду няма. Верагодна, “Спарта” была зборнай, у якую ўвайшлі беларусы і палякі. Нам вядомы прозвішчы толькі двух яе гульцоў — Паўліцкі (Pawlicki) і Загдай (Zagdaj). І калі пра футбаліста Загдая дагэтуль мы не чулі, дык Паўліцкі — асоба вядомая. У 1927-1928 гадах ён паспяхова выступаў за каманды 79-га і 80-га палкоў.

Słonim. Makabi — Sparta. 4:0 i 3:2. Gra ciekawa. Wyróżnili się: Rawicki II. Minc i Basker, oraz Pawlicki i Zagdaj ze Sparty.

Спешна сабраныя футбольныя дружыны не маглі супрацьстаяць “Макабі”, у якой быў стабільны, згуляны склад. Але вайскоўцы ў тым сезоне яўрэйскую каманду абыгрывалі. У канцы ліпеня армейцы з 80-га пяхотнага палка (WKS 80 pp Słonim) выйгралі ў “Макабі” з лікам 4:2. Праўда, апошняя з невядомай нам прычыны выставіла рэзервовы склад.

Вядома пра дзве хатнія гульні “Макабі” з камандамі з іншых гарадоў. У апошнія дні чэрвеня ці ў самым пачатку ліпеня слонімцы прайгралі аднаклубнікам з Ваўкавыска — 0:1. Адзіны гол быў забіты з пенальці.

У сярэдзіне жніўня слонімскі “Макабі” абыграў аднаклубнікаў з Навагрудка — 2:1. Футбалісты парадавалі заўзятараў — гульня атрымалася цікавай. У ёй галы ў

*Працяг на ст. 16*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст. 15*

пераможцаў забілі Граеў (Grajew) і Снебрыцкі (Śniebrycki), а ў гасцей вызначыўся Самурын (Samuryn).

У прэсе ў тым годзе выкарыстоўваліся шматлікія варыянты назваў слонімскіх вайсковых каманд. Афіцыйным варыянтам, які мы выкарыстоўваем, з’яўляецца наступны: WKS 79 pp Słonim і WKS 80 pp Słonim. Сустракаліся вось такія варыянты: Słonim. 79 p.p., Słonim. 80 p.p., K.S. 79 p.p., K.S. 80 p.p.

### Чэмпіянат Слоніма

У пачатку кастрычніка 1931-га павятовы камітэт дзяржаўнага ведамства па фізкультуры і вайсковай падрыхтоўцы арганізаваў чэмпіянат Слоніма з удзелам трох каманд — армейцаў 79-га і 80-га палкоў ды “Макабі”. Анонс матчаў першынства быў змешчаны ў ваяводскай газеце “Навагрудскі кур’ер”.[2] Яго прымеркавалі


ROK 1931


Słonimska

— Piłkarskie mistrzostwa Słonima. Komitet Powiatowy PW i WF w Słonimie na zakończenie sezonu piłkarskiego organizuje wielkie zawody piłkarskie o mistrzostwo m. Słonima i o nagrodę przechodnią Powiatowego Komitetu.

Do zawodów stają trzy kluby sportowe, znajdujące się na tutejszym terenie, a mianowicie K.S. 79 p.p., K. S. 80 p. p. i K. S. „Makabi”.

Program zawodów następujący: dn. 3. X. rb. K.S. 80 p. p. — „Makabi”, 4 X. K. S. 79 pp. — „Makabi”, 10 X. K.S. 79 pp. — K.S. 80 pp.

Zawody odbędą się na stadjonie garnizonowym.

*Зацемка ў газеце Kurjer Nowogródzki*

да заканчэння футбольнага сезону. Арганізатары заснавалі пераходзячую ўзнагароду. Атрымліваецца, што нарэшце слонімскі футбол пачаў набываць нейкую стабільнасць, арганізаванасць. Ды вось бяда — нягледзячы на ўсе намаганні пакуль не ўдалося адшукаць вынікаў турніру. Таму і ўзнікае пытанне: а ці адбыўся ён? Спаборніцтвы мусілі прайсці на гарнізонным стадыёне. На 3 кастрычніка быў запланаваны матч армейцаў з 80-га палка і “Макабі”, на 4-е — армейцаў з 79-га палка і “Макабі”. У апошнім паядынку 10 кастрычніка павінны былі сустрэцца дзве вайсковыя каманды.

Як бачым, шмат засталося “за кадрам”. Не магла ў тым сезоне не гуляць моцная каманда з Жыровічаў (KS Żyrowice). Але пошукі працягваюцца і “белых плямаў” застаецца ўсё менш.

●Сяргей Ёрш

Працяг у наступным нумары


*[1] Okręgowe rozgrywki w piłce nożnej woj. wileńskiego (1931) // https://pl.wikipedia.org/wiki/Okr%C4%99gowe_rozgrywki_w_pi%C5%82ce_no%C5%BCnej_woj._wile%C5%84skiego_(1931)*

*[2] Piłkarskie mistrzostwa Słonima // Kurjer Nowogródzki, 1931, № 13, 2 кастрычніка.*




*Здымак з польскай газеты Przegląd Sportowy, 1931 г.*


O. FR. J. FINN T. J.

GRA W PIŁKĘ NOŻNĄ I CO Z NIEJ WYNIKŁO

KRAKÓW 1931
WYDAWNICTWO KSIĘŻY JEZUITÓW

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты




*Працяг, пачатак у № 5-8,10-11, 2019 г., № 3, 4, 2020 г.*

### Яўрэйскі жылы дом у Слоніме

Хоць значная частка дамоў у Слоніме пабудавана з каменю, у адрозненне ад Баранавічаў, але і тут таксама хапае драўляных будынкаў. Яны размешчаны пераважна ў аддаленні ад цэнтра, дзе паміж дамамі маюцца свабодныя прасторы, праз якія добра праглядаюцца навакольныя палі. На малюнку заўважна, як шмат там снегу… Але ўжо і тут вясна ўступіла ў свае правы...

*Kriegszeitung von Baranowitschi ("Ваенная газета ў Баранавічах"), 1917, № 38, 12 траўня.*

### Невядомы слонімскі мастак

Нямецкая прысутнасць у Слоніме паўплывала не толькі на развіццё гандлю і рамёствы, але і мастацтва. Гэтым "мастацтвам" раней займаўся адзін просты мастак, чыя задача была зафіксаваць на палатне партрэты рускіх афіцэраў альбо салдат, шлюбныя пары ці маладых... Ён спыніў бы сваю дзейнасць у атэлье, калі б не новыя замовы, але ўжо нямецкіх салдат. Цяпер ён малюе не толькі салдат з натуры, але і, па павялічаных здымках — іх жонак, дзяцей і г. д. Вядома, зарабляе ён не графскія ганарары, але дзякуючы аматарам "мастацтва" ў асяроддзі салдат, цалкам дастатковыя для бязбеднага існавання. Па праўдзе кажучы, на высокі кошт гэтыя, даволі прымітыўныя, творы мастацтва і не цягнуць. Тым не менш, салдаты задаволеныя такімі сувенірамі са Слоніма.

*Kriegszeitung von Baranowitschi, 1917, № 20, 10 сакавіка.*

### Спявачка Злата Ліўшыц

Шмат асалоды атрымалі нашы салдаты і шматлікія наведвальнікі з мясцовага грамадзянскага насельніцтва ад двух канцэртаў, якія праходзілі два вечары запар у тэатральнай зале [ў Слоніме]. Яны былі арганізаваны камандаваннем Шостага армейскага будаўнічага цягніка далёкай сувязі. Вакальны гурт цягніка ўжо раней быў у нас вядомы. Зараз ён паспяхова дапоўніў свой рэпертуар. Шмат апладысментаў заслужылі вясёлыя кампазіцыі "Кобленцкае паветра" і "Яфрэйтар Харас", выкананыя прыгожым сольным тэнарам.

Двайны квартэт пад кіраўніцтвам малодшага лейтэнанта медыцынскай службы Дама прадэманстраваў высокае выканаўчае майстэрства. Канцэрты суправаджала музыка аркестра штурмавога батальёна "Д".

Добра пастаўленым, мілагучным голасам мясцовая спявачка фройляйн Злата Ліўшыц выканала цыганскія рамансы пад акампанемент гітары, балалайкі і нашага аркестра.

*Kriegszeitung von Baranowitschi, 1917, № 103, 29 снежня.*

Пераклаў
●Ігар Падгарадзецкі

УСПАМІНЫ

# Рэвалюцыйны Слонім



*Працяг, пачатак у № 8-12, 2019 г., № 2-5, 2020 г.*

Набліжалася першатравеньскае свята па новым стылі (18 красавіка старога стылю) [1906 года]. Падрыхтоўка да яго пачалася за некалькі дзён. Арганізоўваліся сустрэчы, сходы, масоўкі, на якіх рабіліся даклады і агучваліся прамовы пра значэнне святкавання першага траўня. Мы, навучэнцы, вырашылі прыняць удзел у агульным святкаванні і вырашылі арганізаваць забастоўку ў вучэльні. З гэтай нагоды пачалі перамовы з партыйнымі арганізацыямі і, заручыўшыся іх падтрымкай, занялiся справай. Дзесьці за два дні да свята мы сталі распаўсюджваць сярод навучэнцаў пракламацыі, атрыманыя ад партыйцаў. Калі не памыляюся, была выпушчаная на гектографе спецыяльная пракламацыя да навучэнцаў, але тэхнічна яна была кепска аддрукавана, і яе з цяжкасцю можна было чытаць.

Напярэдадні свята мы арганізавалі ў хмызняках за горадам, каля ружанскай шашы[1], нелегальную вучнёўскую масоўку, на якой прысутнічала шмат рабочых. З прамовай пра значэнне першага траўня выступаў максімаліст Барыс Рабіновіч. Ён падрабязна патлумачыў гісторыю ўзнікнення першатравеньскага свята, скончыў сваю прамову заклікам да вучняў выступіць назаўтра з усёй працоўнай Расіяй[2], далучыўшыся да забастоўкі.

Толькі прамоўца скончыў свой выступ і пачаўся абмен думкамі, як за недалёкім узгоркам у невялікім гайку пачуліся крыкі і стогны паўдзіцячых галасоў. У гэты дзень было шмат сходаў і масовак, і нам было зразумела, што адзін з сходаў праваліўся і адбываецца паліцэйская расправа. Мы прытаіліся ў кустоўі, паслаўшы разведчыкаў даведацца пра тое, што здарылася. Праз некалькі хвілін перад нашымі вачыма разгарнулася ўзрушваючая карціна: з хмызняку з-за пагорку бег вялізны натоўп дзяцей-падлеткаў, які разганялі конныя стражнікі і неміласэрна збівалі нагайкамі. Дзеці падалі ад страху і ўдараў нагайкамі, падымаліся і зноў падалі, напаўняючы паветра крыкамі, а каты рабілі сваю ірадаву справу.[3]

Гэта былі "маладыя бундаўцы", падлеткі гадоў ад 11 да 15, якія сабраліся на свой першатравеньскі сход і заспетыя паліцыяй. У Беларусі[4] ў бундаўцаў і сіяністаў-сацыялістаў, а часам і ў іншых груповак былі свае юнацкія арганізацыі рабочай моладзі, сярод якой партыйныя таварышы праводзілі рэвалюцыйна-выхаваўчую працу, рыхтуючы кадры будучых рэвалюцыянераў і ў гэтым сэнсе гэтыя юнацкія арганізацыі мелі вялікае значэнне.

Бяззбройныя, слабыя, мы не маглі дапамагчы таварышам, якіх збівалі і, бездапаможна седзячы ў кустоўі, назіралі, як паліцэйскія нагайкі лупцуюць паўдзіцячыя спіны і твары. Адзін з паліцэйскіх заўважыў нас і з воклічам кінуўся ў наш бок, за ім паскакалі яшчэ некалькі. Астатнія [паліцэйскія] пагналі ў горад арыштаваных "маладых бундаўцаў". Чарга была за намі. Пабачыўшы стражнікаў, што скакалі ў наш бок, мы кінуліся ў бок гарадскіх агародаў, месцамі агароджаных высокімі жэрдкамі, і гэта выратавала нас. Нас падганялі ўдары нагаек. Мы беглі да агародаў, гразлі па калена ў свежа ўзараных градах, што пасля ўчорашняй навальніцы пераўтварыліся ў сапраўдную багну… Напалоханыя, змакрэлыя, мы неяк дабраліся да агароджы і пералезлі праз яе. І толькі тады свабодна ўздыхнулі і крыху супакоіліся. Ад нагаек пацярпелі некалькі чалавек,

пераважна дзяўчат, якім было цяжэй бегчы. Арыштаваных сярод нас не аказалася — абышлося страхам ды нагайкамі. Затое апынуўшыся на вуліцы, мы адчулі пад'ём бадзёрасці і душэўнага задавальнення.

На біржы мы наладзілі невялікую нараду з нагоды заўтрашняга свята. Усе прыйшлі да высновы, што забастоўку ў вучэльні арганізаваным шляхам правесці не ўдасца: якая ўжо тут арганізаванасць сярод падлеткаў і дзяцей! Вырашана было сарваць класныя заняткі пры дапамозе хімічнай абструкцыі[5], матэрыялам для якой нас у дастатковай колькасці забяспечылі партыйныя арганізацыі.

Біржа ў гэты вечар была незвычайна шматлюдная, шумная і ажыўленая. Звінелі звонкія маладыя галасы, чутны быў вясёлы гарэзлівы смех, рэзка гучалі словы таварышаў, якія спрачаліся на палітычныя тэмы, мільгалі пракламацыі, што перадаваліся з рук у рукі. У вечаровым паветры пахла маладым лісцем, травой і сырасцю, што падымалася з ціхіх хваляў Агінскага канала. І ад гэтага паветра, якое п'яніла, ад гэтых маладых забіяцкіх галасоў было молада і светла на душы. Хацелася спяваць і смяяцца — так шмат захаплення было ў юнацкіх грудзях. А ўдалечыні на рацэ з групы лодак, на якіх праходзіў партыйны сход, даляталі словы песні:

*Долой тиранов, прочь оковы,*
*Не нужно старых рабских пут.*
*Мы путь земле укажем новый,*
*Владыкой мира будет труд…*

Раніцай у дзень першага траўня я прачнуўся раней, чым звычайна, — чамусьці не спалася. Быў сонечны дзень, такі цёплы, ласкавы, сапраўдны святочны. Я вырашыў сёння не вучыцца, чаго б гэта мне не каштавала. Скінуўшы свой значак вучня і вучнёўскую тужурку, я ў чырвонай касаваротцы і звычайным пінжаку каля 10-й гадзіны адправіўся на біржу. У горадзе ніякага руху, вуліцы вымерлі. Крамы, майстэрні і заводы закрытыя. Праходзячы па Неўскім ["праспекце"] міма крамы "Таварыства спажыўцоў", якая не далучылася да забастоўкі дзякуючы чорнасоценнаму складу сваіх членаў, я заўважыў на ганку крамы ў кампаніі нейкіх чыноўнікаў слонімскага паліцмейстара. Ён праважаў мяне недаверлівым драпежным поглядам, пакуль я не адышоў на вялікую адлегласць. Відаць, [яму] рэзала вочы мая чырвоная касаваротка.

Калі я дайшоў да павароту Неўскай вуліцы ў бок гарадской вучэльні, сустрэў вучня малодшых класаў Барышанскага, удзельніка "Маладога Бунда". Мы накіраваліся да вучэльні, каб даведацца, што там адбываецца і які настрой навучэнцаў. Мы падышлі да моманту першай перамены, паколькі заняткі ў класах ішлі звычайным парадкам і забастоўкай не пахла. Ад таварышаў мы даведаліся, што настрой сярод старэйшых вучняў нервовы, прыўзняты. У класных пакоях разлітая хімічная вадкасць, паветра ў пакоях невыноснае, некаторых ванітавала. Педагогі ўзлаваныя, але ніякіх дзеянняў не прадпрымаюць. Мы павярнулі назад: Барышанскі — на біржу, я — ранейшым шляхам на Неўскі ["праспект"]. У мяне быў намер абысці Неўскі і выйсці на біржу з іншага боку. На вуліцы было, як і раней, пуста, толькі раз'язджалі конныя паліцэйскія, ды двое гарадавых вялі ва ўчастак арыштаваную бундаўку.



Не паспеў я прайсці міма крамы спажыўцоў, як раптам за маёй спінай пачулася: *"Малады чалавек, спыніцеся!".*

Я зразумеў, што клічуць мяне, але з нявінным выглядам працягваў свой шлях.

●А. Левандоўскі

Працяг у наступным нумары

*[1] Дзесьці ў раёне цяперашняй Брэсцкай вуліцы.*

*[2] Гэтыя слонімцы ў той час былі заангажаваныя ў дзейнасць расійскіх палітычных партый, у тым ліку і нелегальных.*

*[3] Маюцца на ўвазе зверствы цара Юдэі Ірада, які жыў у першым стагоддзі да нашай эры.*

*[4] Аўтар успамінаў называе Беларусь "Паўночна-заходнім краем", як практыкавалі расійскія ўлады.*

*[5]Для спынення заняткаў у памяшканні разлівалася смуродная вадкасць.*

# Такога яшчэ не было ніколі

Да юбілейных жыровіцкіх святаў выйшлі і працягваюць выходзіць кнігі. Сярод іх вылучаецца энцыклапедычны даведнік “Жыровічы. Пад святым пакровам”. Нават Слонім яшчэ не мае сваёй энцыклапедыі (але ў будучыні яна абавязкова з’явіцца), але яе ўжо маюць Жыровічы! Прыемна, што кніга беларускамоўная (ёсць у ёй таксама асобныя тэксты на рускай і англійскай мовах). У ілюстраваным выданні амаль дзве сотні артыкулаў, напісаных навукоўцамі.

Цікавую навуковую кнігу *“Милости источник. Жировичская чудотворная икона Божией Матери и Жировичская Успенская обитель в 1470-1618 гг.”* выдаў протадыякан Павел Бубнаў. Гэта вынік яго шматгадовай працы, даследчых пошукаў у замежных архівах.




Яшчэ адна кніга — “Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр” Аляксандра Ярашэвіча. Гэта папулярнае выданне, зробленае на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. Разлічана найперш на паломнікаў, турыстаў, якія атрымаюць асноўную інфармацыю пра Жыровіцкую абіцель.

А краязнаўца Сяргей Чыгрын склаў чарговую кнігу — “Святло Жыровіцкай святыні”.

Так шмат кніг пра гісторыю слонімскай зямлі за кароткі прамежак часу не выходзіла ніколі.

# У Жыровічах пабудуюць новую званіцу

У Жыровіцкім манастыры пабудуюць новую званіцу. Яе вышыня складзе 57 метраў, і яна стане *“архітэктурнай дамінантай усяго манастырскага комплексу”.* Пра гэта ў інтэрв’ю kp.by распавёў расійскі пасол у Беларусі Дзмітрый Мезенцаў. Паводле яго слоў, праект фінансуе расійскі бізнес. У РФ адлілі 12 званоў, найвялікшы з якіх важыць 4200 кг.

На юбілейныя святы плануецца асвяціць шматтонны памятны камень, усталяваны на месцы будучага будаўніцтва. Мезенцаў кажа, што праект ухвалены кіраўніцтвам краіны, Міністэрствам культуры і *“спецыялістамі ў галіне аховы помнікаў”.*




“Слонімскі край” — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com